ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

1•2017
СТУДЗЕНЬ

Геніяльна! Можа, і рамонт цяпер не патрэбны?

Мікола ГІРГЕЛЬ.



Аляксандр ШМІДТ.




Тамара РАДАВАНАВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Думкі ўголас

Цікава, а адкуль выпадаюць яны — шанцы?

Непакой нагам бывае не толькі з-за дурной галавы, але і з-за доўгага языка.

Што рабіць, калі прызначаюць добраахвотнікам?

Пасля першай спробы знесці залатое яйка курка Раба перапрафіліравалася на выпуск яек Фабержэ.

Калабок — гэта блін камяком?

Трывала стаіш на нагах? А толку, калі свет перавярнуўся з ног на галаву.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

Калі муж, вяртаючыся з працы, натхнёна заспяваў «Касіў Ясь канюшыну», Яніна засмучана ўздыхнула: «Зноў «накасіўся»!..»

Аднойчы сагнуты цвік заўсёды імкнецца сагнуцца.

Матацыкліст хацеў абагнаць вецер, але прыдарожны слуп не зразумеў ягоны намер.

Ігнат на добрым падпітку раз-пораз заходзіў у Нёман і дзівіўся: «І які гэта дурань выдумаў, што ў адну і тую ж рэчку нельга ўвайсці двойчы?»

Кульнуўшы першую чарку гарэлкі з сябрамі, Барыс, які прывык «закусваць рукавом», падскочыў са словамі: «Хлопцы, прабачце, дзе тут мая кашуля?!»

Апошнім часам задаюся пытаннем: каго больш ездзіць у грамадскім транспарце — «зайцоў» ці кантралёраў?

Ваша пенсія можа значна павялічыцца, калі на яе паглядзець праз лупу.

Вольга зразумела, што пахудзець немагчыма, пакуль прадаюцца тарты.




**Янусь МАЛЕЦ,**
*г. Мінск.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Пётр КОЗІЧ.




Андрэй ПЯТРЭНКА

# Інтэрв'ю з дармаедам



*Міні-п'еса*

**Дзеючыя асобы:**
**Андрэй Ягоравіч** – старшыня сельскага Савета дэпутатаў.
**Наталля** – карэспандэнт.
**Аляксандр Вялікі** – дармаед.
**Марыя Уладзіміраўна** – маці Аляксандра.

### Карціна I

*Пакой старшыні сельскага Савета дэпутатаў, у якім знаходзіцца адпаведная атрыбутыка. Начальнік сядзіць на сваім месцы, насупраць яго – карэспандэнтка раённай газеты.*

**Андрэй Ягоравіч** (*лісліВым голасам*). Што вас зацікавіла ў нашым сельсавеце?

**Наталля.** Мы рыхтуем матэрыял пра тунеядцаў, якія сядзяць на чужой шыі. Магчыма, у вас ёсць на прыкмеце яркі прадстаўнік? Хацелася б узяць інтэрв'ю ў такога чалавека.

**Андрэй Ягоравіч** (*задумліва*). Ёсць у нас такі. Трыццацітрохгадовы бугай. У гэтым узросце працаваць ды працаваць, а ён усё на печы сядзіць, нібы Ілля Мурамец.

**Наталля** (*здзіўлена*). Няўжо? А як жа родныя?

**Андрэй Ягоравіч.** Яны ім ганарацца. Усё ж, адзіны мужчына ў сям'і. Завуць яго Аляксандр Вялікі.

**Наталля** (*радасна*). Вось менавіта ён мне і патрэбен. Вядзіце хутчэй да яго!

**Андрэй Ягоравіч.** Добра. Паспрабуйце паўплываць на нашага асілка і ягоных бацькоў.

**Наталля.** Згода!

*Андрэй Ягоравіч і Наталля падымаюцца, выходзяць з кабінета.*

### Карціна II

*У хаце стаіць печ. На ёй сядзіць Аляксандр. Ягоная маці, кволая жанчына ў гадах, займаецца хатнімі справамі.*

**Андрэй Ягоравіч** (*заходзячы ў хату*). Добры дзень, Марыя Уладзіміраўна! Ці можна да вас?

**Марыя Уладзіміраўна.** Дзень добры! Заходзьце, калі ласка!

**Андрэй Ягоравіч.** Але я сёння не адзін. Са мной карэспандэнтка раённай газеты Наталля. Яна жадае пазнаёміцца з нашым асілкам Аляксандрам, каб напісаць пра яго ў газеце.

**Марыя Уладзіміраўна** (*радасна*). Даўно пара! Мой сынок – што ў полі васілёк. Астатнім да яго, як да неба! (*Звяртаецца да сына.*) Сашка, адказвай упэўнена. Каб усе ўбачылі, які ты ў нас! (*Выцірае слёзы*).

**Аляксандр Вялікі** (*неахвотна*). Добра.

**Наталля** (*звяртаецца да Аляксандра*). Скажыце, калі ласка, гэта праўда, што вы, нібы Ілля Мурамец, ужо трыццаць тры гады седзіце на печы?

**Аляксандр Вялікі.** Так.

**Наталля.** А чаму не працуеце? Няўжо ў вас нават хобі няма?

**Аляксандр Вялікі.** Працаваць? Хай лепш іншыя спіны гнуць. Мой любімы занятак – берагчы сваю моц.

*Раптам на падлогу падае мабільны тэлефон Аляксандра. Ён нават не звяртае на гэта ўвагі. Маці падымае апарат і падае яго сыну.*

**Наталля** (*з іроніяй у голасе*). Нашым чытачам цікава даведацца, як перад «ратнымі подзвігамі» бавіць час былінны асілак?

**Аляксандр Вялікі** (*жвава*). Гэта я магу! Галоўны сакрэт маёй сілы – здаровы сон. Сплю я да дванаццаці гадзін дня. Потым снедаю стравамі, у якіх шмат бялку і іншых карысных рэчываў. Зараз магу кілаграм сала з'есці, а пасля запіць трохлітровым слоікам малака. Каб гэта засвоілася, патрэбна гадзіну паляжаць. Пасля я размаўляю з таварышамі па тэлефоне. Адпрацоўваю рэакцыю праз камп'ютарныя гульні. Потым у мяне зноў перакус.

**Наталля.** Але ж трымаць сябе ў тонусе можна і іншым чынам: пасекчы дровы, дапамагчы бацькам...

**Марыя Уладзіміраўна** (*незадаволена*). Што вы прычапіліся да Сашкі! Бачыце, гэта методыка такая. Сынок, можа табе швэдар даць? Я ж сёння слаба печ напаліла.




# Яўгену ХВАЛЕЮ — 70!

*Як жартаваць пачне Хвалей, на сэрцы стане весялей!*



Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*Нягледзячы на сваё гаваркое прозвішча, беларускі пісьменнік Яўген Іванавіч ХВАЛЕЙ па характары зусім не хвалько. Наадварот, ён чалавек вельмі сціплы і душэўны, уважлівы і прыемны суразмоўца з выдатным пачуццём гумару. Дзякуючы апошняй акалічнасці кагорта сяброў і аўтараў нашага часопіса папоўнілася яшчэ адным адданым вожыкаўцам. Жартоўныя вершы, байкі і фірменныя вершастрэлы Яўгена Хвалея трапляюць у цэль — выклікаюць шчырую ўсмешку, часта здзіўляюць нечаканымі асацыяцыямі і паралелямі, трапнымі параўнаннямі.*

*Нарадзіўся Яўген Іванавіч на Стаўбцоўшчыне, пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы працаваў спачатку будаўніком, потым у рэдакцыі раённай газеты «Прамень». Дарэчы, у гэтым выданні былі надрукаваны і першыя творы паэта. Выпускнік філалагічнага факультэта БДУ працягнуў працоўны шлях на беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтвах «Народная асвета», «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», у рэспубліканскіх часопісах і газетах. Сёння ў літаратурнай грамадскасці ён вядомы як паэт, празаік, публіцыст. Акрамя таго, на творчым рахунку Я. Хвалея мноства кніг для дзяцей. За адну з іх — аповесць «Прынцэса тусоўкі» — пісьменнік быў удастоены прэстыжнай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон».*

*Шчыра жадаем Яўгену Іванавічу жыццёвага аптымізму, натхнення і многа-многа новых кніг!*

**Яўген ХВАЛЕЙ**




## Сарока і салавей

— Нашу я плёткі на хвасце,
Таму такі даўгі расце.
Пачуў сароку салавей:
— А што нясеш ты ў галаве?

## Розная тактыка

Муха хітрая — лятае
Вакол нас, і тым яна
Лепшая за авадня:
Той нахабна ўсіх кусае.

## Хто герой?

— Паглядзі, які я бурны!
Ты такою век не будзеш, —
Вадаспад раку ўшчувае.
Адказала ціха тая:
— Плынь мая твой шум збівае —
Я цярплю цябе, трываю...

## Неразбярыха

Здараецца ў жыцці
Падчас неразбярыха:
Крычаць на камара,
Хоць кроў п'е камарыха.

## Задавака

— Я — амаль што верталёт:
У мяне такі ж палёт!
— Ты ўсяго пырх-страказа, —
Конік з траваў адказаў.

## Пан і чан, або Хто баран?

*Байка*

Падчас і ў горадзе, сябры,
Жыццё закручвае віры:
Трубу прарвала ў доме.
Што за прычына? Невядома.
Спалох у ЖЭСе:
— Рамонту тут на тыдні тры...
Ваду ў кватэры людзі носяць
з чана,
Які паставілі ў двары.
І Гаспадар цягаў старанна
На свой паверх.
А тут — вада пайшла
з-пад крана...
Застыў мужчына:
— Вось і на!
Глядзіць вачыма барана.
Сусед-сантэхнік выйшаў з ваннай:
— Го, людзі, гэта ж не бяда:
Дня не прайшло — цячэ вада!
***
Дык што за Пан
Паставіў ля пад'езда чан,
Каб ратаваць так гараджан?
І хто ж у выніку баран?

# свой метад



*Іранеска*

Міхаіл Іванавіч з самага дзяцінства быў памяркоўным, спакойным чалавекам. Ніколі не лез у сваркі, яго больш прыцягвалі вучоба і кнігі. Чытаў ён усё, што траплялася на вочы. Пазней паступіў на філалагічны факультэт, паступова дарос да выкладчыка мовазнаўства. З цягам часу разважлівасць Міхаіла Іванавіча нікуды не знікла. Раз-пораз нават жонка Ірына называла яго маўчуном, патрабавала эмацыйнасці. Той жа ў адказ толькі ўсміхаўся і казаў: «Дарагая, нервовыя клеткі не аднаўляюцца, таму лепш іх пабярагчы».

Аднойчы Міхаіл Іванавіч з Ірынай адправіліся на рынак купіць сёе-тое з прадуктаў і адзення. Доўга хадзілі паміж радоў, жонка мітусілася, старанна выпытвала нешта ў прадаўцоў, таргавалася. Мужчына ж маўкліва тупаў за ёй і нёс цяжкія пакеты. Раптам Ірына спынілася і сказала:

– Слухай, я пайду яшчэ мандарынаў куплю, а ты адпраўляйся па зяляніну. Сустрэнемся ў пачатку другога рада.

І знікла ў натоўпе. Міхаіл Іванавіч паслухмяна паплёўся выконваць даручэнне. Але знянацку на яго наляцела мажная жанчына і штурханула так, што ледзь не выбіла з рук пакеты.

– Куды ляціш?! – адразу пачала крычаць яна. – Вочы расплюшчы, сляпы пень!

Мужчына збянтэжыўся ад такога націску і не знайшоў нічога лепшага, як ціхенька прамовіць:

– Выбачайце, калі ласка, я не спецыяльна...

– Не хацеў ён, ага! Ідыёт нейкі, – гарлапаніла на чым свет стаіць жанчына.

Міхаіл Іванавіч ужо хацеў неяк збегчы ад яе, але, пачуўшы абразу, спыніўся, хітра прыжмурыў вочы і парыраваў:

– Прабачце, вы, магчыма, не так хацелі мяне назваць. Бо ў Старажытнай Грэцыі гэтае слова азначала «прыватную асобу» ці «асобнага, адасобленага чалавека». Ні для каго не сакрэт, што старажытныя грэкі ставіліся да грамадскага жыцця вельмі адказна і называлі сябе «polites». А тых жа, хто ад удзелу ў палітыцы ўхіляўся ці, напрыклад, не хадзіў на галасаванні, называлі «idiotes». Гэтыя людзі мелі свае вузкія інтарэсы. Зразумела, што «ідыётаў» свядомыя грамадзяне не паважалі. А я, мая даражэнькая, хаджу на ўсе выбары, да чаго ж тады заўвага?

Жанчына на імгненне аслупянела, але здавацца ў гэтай сварцы нават не думала:

– Бач, які разумны! А на самай справе сапраўдны дурань.

– І вы зноў памыляецеся, – спакойна адказаў Міхаіл Іванавіч. – У дакументах XV–XVII стагоддзяў слова «дурань» часта сустракаецца ў якасці імя. Прычым сярод людзей вышэйшага саслоўя. Напрыклад, «Князь Фёдар Сямёнавіч Дурак Кемскі», «Князь Іван Іванавіч Барадаты Дурак Засекін». Дарэчы, менавіта з тых часоў і пайшлі розныя «дурныя» прозвішчы – Дураў, Дурнеў... А яшчэ гэтае слова часта выкарыстоўвалі ў якасці другога нецаркоўнага імя. У старыя часы было папулярна даваць дзіцяці яшчэ адно імя з мэтай падмануць злых духаў. Маўляў, што з дурня ўзяць? У мяне ж, між іншым, зусім не княскае паходжанне, ды і другога імя няма.

Каля «апанентаў» пачалі збірацца людзі, каб паслухаць пазнавальную сварку.

– Ах ты, нягоднік, прахвост! За каго ты мяне трымаеш! – прашыпела жанчына.

– Чакайце, – перапыніў яе Міхаіл Іванавіч. – Які ж я нягоднік? Вы хоць ведаеце, што ў XIX стагоддзі, калі ўводзілася рэкруцкая павіннасць, гэтае слова не было абразай? Так называлі людзей, якія былі не прыдатныя да страявой службы. Інакш кажучы, раз не служыў у войску – значыць, нягоднік! А прахвост – гэта скажонае вымаўленне нямецкага слова «прафос», якое ў часы Пятра Першага адносілася да ваенных асоб, што займаліся справамі ніжэйшых салдат. «Прафосы» садзілі на гаўптвахту, закоўвалі ў кайданы і падвяргалі салдат цялесным пакаранням. Адсюль і нелюбоў да іх. А я ў сваю чаргу быў у арміі, старанна нёс службу, маю званне сяржанта і нікога на гаўптвахту не саджаў.






— Вось, зараза! — нервова выкрыкнула жанчына.

— Ой, тут вы наогул моцна памыляецеся. Першапачаткова гэта быў камплімент. У першай палове XVIII стагоддзя слова «заразіць» было сінонімам да «ўразіць». Мужчыны называлі так прыгожых дам, а паэты нават фіксавалі гэта ў вершах. Слова «зараза» пачало азначаць жаночае хараство, якім тыя ўраджвалі мужчын. Мне, канешне, прыемна, што я вам так спадабаўся. Але, даражэнькая, я жанаты і не магу адказаць вам узаемнасцю, — з усмешкай у голасе сказаў Міхаіл Іванавіч.

У натоўпе людзей пачуўся смех. А жанчына гучна выпаліла:

— Ну і сволач!

— Паважаныя, — Міхаіл Іванавіч звярнуўся да «гледачоў», якія сабраліся вакол. — «Сволочати» на старажытнарускай азначае тое самае, што і «сволакивать». Таму сволаччу першапачаткова называлі ўсялякае смецце, якое зграбалі ў кучу. З часам гэтае слова стала абазначаць любы натоўп, які збіраўся ў адным месцы. І толькі потым яно набыло знаёмы вам сэнс. Таму атрымліваецца, што зараз яна звяртаецца не да мяне, а да ўсіх вас.

Людзі вакол разбіліся на групы. Адныя апладзіравалі, другія нешта выкрыквалі, трэція смяяліся. Жанчына ж, пачуўшы апошняе тлумачэнне, вырашыла хуценька пакінуць «поле бою». Да Міхаіла Іванавіча падбегла Ірына:

— Вой, як ты яе! Малайчына! Я б так не змагла.

— Чаму? Я ж табе заўсёды кажу, што нервовыя клеткі не аднаўляюцца. Таму я і абіраю заўсёды свой метад барацьбы. Галоўнае, адказваць на такія выпады спакойна і абгрунтавана. Хай нервуюцца яшчэ больш, калі не разумеюць, як сябе трэба паводзіць. Ну, усё, годзе разважаць, хадзем па зеляніну, бо з-за гэтай сварлівіцы я так нічога і не купіў!

І пара прадоўжыла свой паход па рынку...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**







Пётр КОЗІЧ.




Як мала на свеце такіх бездакорных жанчын, якія хаця б раз на дзень не давалі сваім мужам падставу пашкадаваць пра тое, што яны жанатыя, і пазайздросціць халасцякам.

*Жан дэ Лабруер, французскі пісьменнік*



Тамара РАДАВАНАВІЧ.

Жыла некалі на невялічкім хутары маладая сям'я: Васілёк з прыгажуняй Аленкай, двое іх маленькіх дзетак і Аленчына маці Сычыха. Маладыя жылі добра, моцна кахалі адно аднаго, гаспадарку трымалі немалую. Ды толькі была ў Васілька адна бяда, адналькавая для ўсіх зяцёў, — цешча! Зусім закатавала яна хлопца цяжкай працай. Яшчэ цёмна на вуліцы, а ён ужо ля печы завіхаецца, цягае чыгуны з бульбай, што вілы гатовыя зламацца. Корміць свіней, карову, каня... Ды і Аленцы працы хапае — дзеці ж.

# Як зяць цешчу вылечыў

*Быль*

А чым займаецца ў гэты час Сычыха?

Звычайна яна ляжыць у ложку да поўдня. Потым устае і, войкаючы, ходзіць па хаце. Ды і чапляецца да Васілька па дробязі: і тое не так, і сёе.

— Вой, вой, як баліць спіна! Як ныюць мае ножкі! — не забывае скардзіцца на здароўе цешча. — Мабыць, я хутка памру...

— Што вы, мама? — непакоіцца Аленка. — Мы адвязём вас у горад, там добрыя лекары, яны вас вылечаць!

Але Сычыха не згаджаецца. І працягвае псаваць жыццё маладой сям'і.

Так надакучыла Васільку гэта, што вырашыў ён яе правучыць. Узяў з кладоўкі сякеру, адправіўся ў лес і ссек малады дубок. Зрабіў з яго моцны слуп і панёс на падворак. Непадалёку ад пчаліных вулляў пачаў укопваць у зямлю слуп.

Тут Сычыха выйшла з хаты, убачыла Васілька за справай і зласліва спытала:

— Чым гэта ты займаешся, дарагі зяцёк? Няўжо шыбеніцу майструеш, каб мяне павесіць?

— Ну што вы такое кажаце, любая матуля! — запярэчыў Васілёк. — Думаю лазню паставіць. Каб вы маглі хворую спіну і ножкі папарыць.

— Някепская справа, — прамовіла Сычыха, падазрона пазіраючы на хлопца.

У гэты дзень Аленка з дзецьмі адправіліся на кірмаш, і Васілёк вырашыў злавіць момант. Ён правёў жонку да аўтобуса, моцна пацалаваў і пажадаў шчаслівай дарогі. А пасля пайшоў у хлеў і ўзяў моцную вяроўку. Прыціх за свіранам і пачаў чакаць, пакуль старая выйдзе на падворак. І вось Сычыха, войкаючы, выйшла з хаты. Калі яна параўнялася са слупам, Васіль выскачыў са свайго сховішча, схапіў Сычыху і моцна прывязаў вяроўкай да слупа. Усё адбылося так хутка, што старая нават не паспела зразумець, у чым тут справа. Васіль падбег да вулляў і пачаў выпускаць пчол. Калі ўсе пчолы былі выпушчаны, хлопец забег у хату, зачыніў дзверы і пачаў назіраць праз акно за цешчай.

Што тут пачалося! Сычыха моцна верашчала, круцілася, як вуж. Але вяроўка моцная, і нічога нельга зрабіць. Вось ужо зусім закусаюць бедалагу пчолы. Але раптам цешча паднатужылася і з дзікім ровам, падобным да баявога клічу індзейцаў, з апошніх сіл вырвала слуп з зямлі.

— Ну, зяцёк, трымайся! — раз'юшаная Сычыха з разгону пратараніла дзверы ў хату прывязаным да спіны слупам. Ад магутнага ўдару з вокнаў павылятала шкло.

Спужаўся Васілёк. Зразумеў, што сітуацыя выходзіць з-пад кантролю, што рабіць? Хлопец выскачыў праз акно і давай уцякаць. Прыбег да бацькоў. Маці здзівілася:

— Што з табою здарылася, сынок? Адкуль бяжыш?

— Вой, мама, і не пытайся.

Пачаў ён хлусіць:

— Быў я ў лесе непадалёку ад свайго хутара, нарыхтоўваў жэрдкі на адрыну. І на мяне напала мядзведзіца. Ледзьве ўцёк!

— Не магу зразумець, — уступіў у размову бацька. — Адкуль у нашым лесе ўзяўся мядзведзь? Хіба з гарадскога заапарка ўцёк?

Прайшло два тыдні. Васілёк адлежваецца ў бацькоў, на хутар не ідзе. Раптам бачыць — да хаты пад'язджае фурманка, а на ёй сядзіць яго любая Аленка. Заходзіць у хату.

— Прывітанне Васілёк! — нявесела кажа яна. — Збірайся, паедзем дамоў. Там матулі вельмі кепска, мабыць, памрэ.

Моўчкі выехалі на лясную дарогу. Не заўважылі, як дабраліся да хутара.

Васілёк на імгненне затрымаўся перад хатай. Сорамна было за ўчынак.

— Ідзі, любы, не бойся, маці чакае, — падбадзёрыла яго Аленка.

Васілёк нясмела адчыніў дзверы, ступіў на парог і... што ён бачыць? Ля печы лёгка, спрытна завіхаецца Сычыха, жывая і здаровая, а дзеці сядзяць за сталом і ўплятаюць свежыя скваркі.

— Ах, Васілёк, дарагі, заходзь, сядай! — цешча ніколі не была такой ветлівай. — Зараз будзе табе і скварка, і чарка. Хоць і дасталося мне нямала, на цябе, зяцёк, я не крыўдую. Пасля гэтага выпадку ў мяне перасталі балець спіна і ногі. Мабыць, дапамог пчаліны яд.

З гэтага часу пачалі яны жыць дружна, адзін аднаму дапамагаць і ніякіх сварак на хутары больш не было чуваць.

**Даслаў Міхаіл МАСКАЛЬЧУК,**
*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Берастовіца.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Андрэй СЛУЦКІ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СЛІВА.

## Знарок не прыдумаеш

Сіратліва стаяў адзін разабраны трактар, астатнія таксама былі без аптымізму.

Спадабаўся ўсім дом жывёлавода. І хоць звонку ён быў непрыглядны, як у Венецыі, але ўнутры — выдатны: чысты, беласнежны, сучасны.

Старшыня праўлення не стаў чакаць прылёту гракоў, а загадзя ўкамплектаваў адзіны пасяўны фундамент і мабілізаваў механізатараў, якія ўжо засумавалі па полі.

Трэба разумець, што зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш.

На канцэрце гучалі фальклорныя песні на словы мясцовых паэтаў і кампазітараў.

*(З газетных артыкулаў).*

**Выпісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*







Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Віктару РЭЧЫЦУ — 70!

## *Ад вершаў, баек Рэчыца любая рана лечыцца!*

*Калі б лёс сёлетняга юбіляра Віктара РЭЧЫЦА склаўся іначай, магчыма, ён і сапраўды мог бы стаць урачом ды лячыць розныя хваробы. Аднак, на шчасце, яму быў наканаваны іншы шлях — літаратурна-журналісцкі. Ураджэнец вёсці Альшаны, што на Пружаншчыне, у падлеткавым узросце напісаў першы верш — між іншым, сатырычнага зместу, — які быў надрукаваны ў раённай газеце. Адабрэнне і прызнанне сталі штуршком да абрання будучай прафесіі: Віктар Трафімавіч скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута і пасля амаль чатыры дзесяцігоддзі адпрацаваў у рэдакцыі «Івацэвіцкага весніка».*

*Друкаваўся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена» і, вядома, у часопісе «Вожык» — на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Аўтар кніг сатыры і гумару «Залаты тавар», «Свой метад», «Далей ад граху», «Штатны сведка», «Сюрпрыз наадварот» і «Паўцарства за ўсмех». Вершы, байкі, эпіграмы пісьменніка і сёння з'яўляюцца на старонках нашага часопіса, што сведчыць пра выдатную гумарыстычную форму юбіляра. Смех Віктара Трафімавіча мяккі і добразычлівы, нават спагадны, менавіта такі, якім і павінен наогул быць шчыры народны досціп.*

*Зычым нашаму пастаяннаму аўтару і сябру моцнага здароўя і творчага плёну!*

## Пра кукурузу і музу

У кукурузу я залез,
Што ад райцэнтра недалёка.
Зайшоў — нібы схаваўся ў лес:
Расце культура да аблокаў.

Шмат недаспелых катахоў,
Іх наламаю непрыкметна.
Звару, наемся — будзь здароў!
Галоўнае ж — бясплатна гэта.

Рукзак запоўніў, аж смыліць
Плячо. Я поле пакідаю.
Ды тут гляджу — аўто стаіць,
У ім — жанчына маладая.

Спатканне хтось, хоць не вясна,
Назначыў тут, а не ў завулку?
Мяне паклікала яна,
Не вымаўляючы ні гуку.

І кажа: «Ураджай крадзеш,
Які я вырасціла, Вадзік?»
— Табе я падару свой верш, —
Спрабую ўраз віну загладзіць. —

А знаеш скуль маё імя?
— Сачу за творчасцю паэта.
— Дык стань маёю музай! Я
Прашу, стань песняй недапетай...

— Я музай не была яшчэ,
Цябе, Вадзім, натхняць гатова.
Ці плаўна твой радок цячэ?
Ці роўна складваюцца словы?

І вось да гэтае пары
Я... рэкламую кукурузу.
Тавар свой спажыўцам, сябры,
Нястомна адгружае муза.

Працуе плённа наш тандэм,
Наш човен кункурэнт не ўтопіць.
Я не шукаю новых тэм —
Надоўга кукурузнай хопіць!



## Сама вінавата

З камандзіроўкі муж вярнуўся,
Пяшчотна жонку прытуліў:
— Пярсцёнак заручальны, Люся,
Ў паездцы недзе я згубіў...

З абдымкаў выслізнула тая,
Глядзіць — а у вачах дакор:
— Як мог ты! Звязана такая
Жыцця падзея з ім, Ягор!

— Ды вінаватая, Людміла,
Сама тут, — муж азваўся зноў. —
Прасіў жа я, каб ты зашыла
Ў кішэні дзірку шмат разоў...



# 29 студзеня – Дзень беларускай навукі

## Не з камоды, а з нагоды...



*Прытча*

Ішлі некуды тры браты ды знайшлі па дарозе яму, у якую трапіла Удача. Ніяк не магла яна адтуль выкараскацца.

Калі першы брат зірнуў на Удачу, тая спытала:

– Чаго ты жадаеш?

– Мільён доляраў! – не раздумваючы адказаў хлопец, і, атрымаўшы грошы, хутка пайшоў.

Схіліўшыся над ямай, другі брат пачуў тое ж самае пытанне. Ён папрасіў прыгожую жонку і разам з ёю знік упрочкі.

Перад Удачай застаўся стаяць трэці брат.

– Чаго жадаеш? – спытала яна.

– А ты? – пацікавіўся ў адказ хлопец.

– Дапамажы мне выбрацца адсюль!

Хлопец выцягнуў Удачу з ямы і моўчкі пайшоў прэч.

А яна пабегла за ім...

**Аляксандр Сяргеевіч КАЛІНІЧЭНКА,**
*доктар тэхнічных навук,*
*прафесар, намеснік прарэктара БНТУ*
*па навуковай рабоце.*




Алег КАРПОВІЧ.




У кожнага чалавека ў жыцці ўсяго дзве задачы: па-першае, дамагчыся таго, чаго хочацца, і, па-другое, атрымаць ад гэтага задавальненне. Другая задача пад сілу толькі наймудрэйшым.

*Ліліян Сміт, амерыканская пісьменніца*




Андрэй СЛУЦКІ.




Аляксандр ШМІДТ.






*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** ... вады даражэйшая за алмаз (*выказванне Д. Мендзялеева*). **5.** Стройнасць, прыгажосць у рухах цела. **9.** Чым глыбейшы калодзеж, тым саладзейшая ... (*прыказка*). **11.** Лад жыцця гэтага чалавека прадугледжвае адмаўленне ад матэрыяльных выгод. **13.** Вада ўсё крые, а ... рые (*прыказка*). **15.** «На двары стаіць калодзеж, \\ Там вялікі ... . \\ Маю мілку едуць сватаць, \\ Я пайду наперабой» (*прыпеўка*). **17.** Рэмень ці вяроўка, нацягнутыя ад аглоблі да восі пярэдняга кола. **19.** Закончаная частка спектакля. **20.** Старажытнаегіпецкі бог Сонца. **21.** Нота музычнай гамы. **24.** Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца ... травіцы (*прыказка*). **25.** Перыяд, калі рыба з прагнасцю кідаецца на ежу. **26.** «Родная ...». Беларускі часопіс, якому ў студзені 2017 года спаўняецца 45 гадоў з часу заснавання. **32.** Так жарт ці розыгрыш называюць яўрэі. **34.** Шкляная пасудзіна, з якой на святочны стол трапляюць салёныя агуркі ды памідоры. **35.** На ... не адкажаш смехам – ... пакрыўдзіцца (*туркменская прыказка*). **36.** «Надышлі ..., \\ Рэчкі закавалі» (*з верша Я. Коласа*). **37.** Чалавек, які жыве на рэнту.

**Па вертыкалі:**

**2.** З малой крыніцы вялікая ... (*прыказка*). **3.** Не столькі раса з неба, колькі ... з твару (*руская прыказка*). **4.** ... : так смакуецца асвечаная на Вадохрышча вада. **6.** На бязрыб'і і рак – ... (*прыказка*). **7.** Вада – сама сабе ... (*руская прыказка*). **8.** ... падобна да салёнай вады: чым больш яго п'еш, тым мацнейшая смага (*выказванне А. Шапенгаўэра*). **10.** ... вока і тое спаць хоча (*прыказка*). **12.** Хлеб, соль ды вада – першая ... (*прыказка*). **14.** ... вады адчыняе дзверы ў рай (*нарвежская прыказка*). **16.** Не плюй у ... – давядзецца вады напіцца (прыказка). **18.** Прыстасаванне пры калодзежы ў выглядзе доўгага шаста для даставання вады. **22.** Можа быць нулявым, першым, апошнім. **23.** Вада жывіць, а ... губіць (*прыказка*). **27.** Вядомы савецкі кінафільм «Паласаты ...». **28.** Смачная ежа з печанага мяса ці бульбы з начынкай. **29.** Смачна было, ды блізка ... (*прыказка*). **30.** Шлюб

ці шлюбны ...; некалі яго заключалі ля калодзежа ці крыніцы. **31.** Вожык маленькі, але і мядзведзю ... прычыняе (*руская прыказка*). **33.** Група спевакоў. **34.** Паводле павер'яў, убачыць у ім поўны калодзеж – да багацця, сухі – да нястачы.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**

**1.** Кропля. **5.** Грацыя. **9.** Вада. **11.** Аскет. **13.** Бераг. **15.** Вадапой. **17.** Цяж. **19.** Акт. **20.** Ра. **21.** До. **24.** Вол. **25.** Жор. **26.** Прырода. **32.** Хохма. **34.** Слоік. **35.** Смех. **36.** Марозы. **37.** Ранцье.

**Па вертыкалі:**

**2.** Рака. **3.** Пот. **4.** Нашча. **6.** Рыба. **7.** Цар. **8.** Багацце. **10.** Адно. **12.** Яда. **14.** Глыток. **16.** Калодзеж. **18.** Журавель. **22.** Паверх. **23.** Гарэлка. **27.** Рэйс. **28.** Рулет. **29.** Дно. **30.** Саюз. **31.** Боль. **33.** Хор. **34.** Сон.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*



Алег ГУЦОЛ.




Толькі пасля таго, як апошняе дрэва будзе ссечана, толькі пасля таго, як апошняя рака будзе атручана, толькі пасля таго, як апошняя рыба будзе злоўлена, толькі тады вы зразумееце, што грошы нельга есці.

*Індзейскае выслоўе*




Алег ПАПОЎ.




Вогнедушыцель.

Пральны парашок для каляровага: пахаванне колеру.

Стоп-мэнеджар.

Сужыцелі Феміды.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

Віншуем!



# Юрыю МІХАЙЛАВУ — 60!

Лаканічныя ў выкананні, але трапныя па тэмах карыкатуры з кропелькай скепсісу і цынізму – адметнасць стылю Юрыя Сяргеевіча. Моцным штрыхом мастак-карыкатурыст абмалёўвае не менш моцныя тэмы, не баючыся выказваць свой погляд на свет. Дарэчы, шырокаму колу прыхільнікаў майстар знаёмы не толькі як мастак, але і музыкант гурта «Мадэра Хард Блюз».

Сардэчна віншуем юбіляра і жадаем яму доўгіх гадоў жыцця, творчых поспехаў і невычэрпнага натхнення!

















**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Піша вершы паэт

*Вёска спіць. А дзівак-паэт*
*Пераводзіць на вершы чарніла*
*І рыфмуе каханую з поўняй...*
*...*
*Трэці спеў. Захліпаюцца пеўні,*
*А ў яго не канчаюцца вершы...*

**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ**

Вёска спіць, на турботы забыўшы,
Бы клапот усіх сцёрся і след.
Хіба толькі не спіць, нешта піша,
Рыфмы гонячы ў вершы, паэт.

А пра што дзівак піша? Напэўна,
Пераводзіць чарніла ўвесь час
На свіней, на курэй і на пеўня,
Што разбудзіць пад раніцу нас.

То каханую з поўняй, няйначай,
Зарыфмуе, то з нечым яшчэ.
Ды і ўсё, што за дзень доўгі ўбачыў,
Ён у вершы свае валачэ.

Прычакаўшы начное натхненне,
Шмат пра што напісаць бы хацеў.
Трэці спеў. Захліпаюцца пеўні,
А паэт і не чуе той спеў.

І хоць рвуць яны горлы, ды гэта
Перашкодзіць не можа нічым.
Не канчаюцца вершы ў паэта –
Вось былі б толькі ў іх чытачы!






## Кім быць?

*Хочаш, буду тваёй князёўнай,*
*Ці Канстанцыяй, ці Паўлінкай,*
*Ці Джульетаю – усё роўна!*
*Буду частачкай, палавінкай.*
*Хочаш, буду тваёй Рагнедай*
*Без падману і без прымусу...*
*Калі стану тваёй князёўнай*
*Ці чаканай тваёй Мальвінай,*
*То мне будзе ўжо ўсё роўна,*
*Што раней я была Ірынай.*

**Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ**

Хочаш, буду тваёю князёўнай,
Палачанкай тваёю Рагнедай,
І што сам ты не князь – усё роўна.
Я ж кахаю цябе не за гэта.

Я хачу быць тваёй палавінкай
Ці хаця б чарцвярцінкай якою.
Я хачу быць тваёю Паўлінкай
Ці Сафіяй – каб толькі з табою.

Да цябе я гарнуся – і ў гэтым,
Ненаглядны, прызнацца павінна.
Хочаш, буду тваёю Джульетай,
Загадаеш – дык буду Мальвінай.

Хай з'яўляюцца ў згадках дзяўчаты,
Ўсе, з якімі кахаўся дагэтуль.
Я ж павер, і таму буду рада,
Што нарэшце прыйшоў да мяне ты.

Называй мяне Светаю, Зояй,
Машай, Дашай, Аленай, Алінай.
Я гатова забыцца й на тое,
Што па пашпарце ўсё-ткі Ірына.










Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег ПАПОЎ.

## У пагоні за новымі адчуваннямі

Праца павінна прыносіць як мага больш станоўчых эмоцый. Псіхолагі адзначаюць: гэта адно з асноўных патрабаванняў, для таго каб чалавек адчуваў сябе шчаслівым. Але ж часта здараецца так, што праца не адпавядае ўсім жаданням. Таму некаторыя людзі і імкнуцца нешта змяніць у звыклым распарадку.

Адна жанчына з Салігорска вырашыла дадаць у рабочы працэс дынамікі і яскравых эмоцый. Яна пачала выносіць з завода, дзе адказвала за адзін са складоў, інструменты і абсталяванне ды прадаваць іх фізічным асобам. Праз некаторы час, каб злачынства не выкрылася, махлярка заявіла пра крадзеж, які быццам здзейснілі незнаёмцы.

Але супрацоўнікі праваахоўных органаў не паверылі ў такія казкі. І знайшлі доказы, што злодзей – менавіта загадчыца складу. Дарэчы, за некалькі гадоў «прадпрымальніца» вынесла з завода матэрыяльных каштоўнасцей на 150000 рублёў. Зараз праводзіцца далейшая праверка, а жыхарка Салігорска знаходзіцца за кратамі. Мяркуем, што гэта будзе добрым прыкладам для ўсіх, хто хоча выйсці за межы дазволенага ў пагоні за новымі адчуваннямі.




## «Чаму б і не?»

Жыхар адной вёскі ў Навагрудскім раёне схаваў ключы ад сваіх гаспадарчых пабудоў у таемным месцы. Але іх усё роўна знайшоў злачынец. З летняй кухні ён сцягнуў перфаратар «Bosh», аднак на гэтым не спыніўся. Нягоднік зазірнуў у хлеў і злавіў там некалькі курыц ды індыка. Зладзейства і тут не скончылася, бо на вочы мужчыне трапіўся – вой, цуда-цуднае! – сапраўдны паўлін! «Чаму б і не?» – падумаў злачынец ды схапіў і гэтую птушку.

Следства пакажа, чаму мужчына вырашыў пайсці на крадзеж. Можа, яму не хапала нейкай прыгажосці ў жыцці, экзотыкі? Але, хутчэй за ўсё, прычына больш празаічная.



## Таксіст-хвалько

Калі ты выстаўляеш сябе перад іншым чалавекам, які нічога не баіцца, то часам трэба падмацоўваць такі вобраз нейкімі дзеяннямі і ўчынкамі.

Вось і сталічны таксіст вырашыў даказаць, што ён не проста вадзіцель, а сапраўдны гоншчык! І можа рабіць на аўтамабілі такія трукі, ад якіх вочы на лоб лезуць. Для дэманстрацыі сваіх талентаў мужчына абраў плошчу Перамогі. «Месца знакавае, самае тое, каб пахваліцца», – падумаў таксіст і пачаў наварочваць кругі і адпраўляць машыну ў заносы.

Толькі доўга красавацца аўтамабілісту не дазволілі, у хуткім часе ён быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Хвалько пазбавілі вадзіцельскіх праў, аштрафавалі на 630 рублёў. Акрамя гэтага, узбуджана крымінальная справа па артыкуле «Хуліганства». Нездарма ж у народзе кажуць: хваліўся дурань, што кабыле хвост адарве, а як ірвануў, дык і рот заткнуў.






Алег КАРПОВІЧ.



Аляксандр ПЯТРОЎ.




Віктар ЛОЎГАЧ

# Вылечыў

*Гумарэска*

Забалеў неяк у мяне зуб. Ды так, што месца сабе не знаходзіў. То бегаў вакол стала, то гойсаў на печ, то качаўся па падлозе. І гарбату гарачую з мёдам піў, і лёд халодны да шчакі прыкладваў, і сала салёнае жаваў — няма ніякай рады. Баліць, нібыта па голай спіне рэменем лупцуюць.

А жонка толькі прыгаворвае: «Так табе і трэба, нягоднік. За выпіўку, за гультайства, за палюбоўніц!»

Але гэта ўсё нагавор! Ну, вып'ю, бывае, разоў пяць-шэсць на тыдні — і болей ні кроплі. І ці ж лайдак я? Працую вартаўніком у аграфірме. Ахоўваю садавіну і гародніну. Як тут добрым людзям не дапамагчы? Мех-другі яблыкаў, бульбы ці цыбулі не даць? Ну, і мяне за маю дабрыню яны таксама спяшаюцца аддзячыць — не грашыма, вядома, а вадкаю «валютаю». Бывае, ад гэтых падзяк ледзь да хаты даклыпаеш...

Жонка потым дапякае, што я гультай, п'яніца, валацуга. Жанчын мае на ўвазе. І перш-наперш, суседку прыпісвае. Я ж, клянуся вам, цалуюся з ёю, толькі як нап'юся. А што ў хату яе трапляю, дык сама вінавата, бо дзверы не зачыняе.

Ды сёння мне не да гэтага. Зуб баліць! І тут я ўспомніў пра цесця. У сталіцы зубным урачом працуе, вучоны чалавек. Паехаў да яго. Ён акуляры надзеў, зуб мой нейкімі прыборамі доўга глядзеў. Затым сказаў: «Дужа рэдкае захворванне. Калі хочаш вылечыць зуб, зяцёк, трэба застацца тут, у нашай бальніцы».

Застаўся. Лячуся паўгода. Не п'ю, не гуляю... І нешта мне здаецца, што вучоны цесць мяне падмануў. Не зуб вылечыў, а маю цягу да п'янак ды чужых спадніц. Бо мару я хутчэй вярнуцца да любай жоначкі, у родную хату, каб нідзе больш не бадзяцца. Відаць, у мяне тым часам зуб мудрасці вырас...

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

Сцёпка атрымаў заробак і з гэтай нагоды добра напіўся. Укуліўся ў кватэру — жонкі няма. А перад вачыма ўсё плыве ды дваіцца.

«Толькі б Любка мяне не ўбачыла!» — блыталіся думкі.

Мужчына паклаў грошы на кухонны стол і пакінуў запіску: «Вось зарплата. Сцёпку не шукаць». І подпіс — «Фантамас». А сам, каб пазбегнуць скандалу, схаваўся ў шафе, дзе імгненна заснуў, занурыўшыся ў жончыны сукенкі.

Любка вярнулася дахаты праз пару гадзін.

«Кватэра адчынена. Значыць, муж дома», — спакойна падумала яна.

Але хутка ўбачыла запіску і сутаргава схапілася за тэлефон.

— Алё, Таня? Прыходзь, калі ласка! Не ведаю, што рабіць, — муж прапаў! — галасіла Любка. — Нейкі бандыт запіску пакінуў, каб Сцёпачку не шукалі. А можа, родненькага майго ўжо і ў жывых няма! Вой, Танечка, прыходзь!

Хутка сяброўка была ў Любкі. Думалі-разважалі, як дзейнічаць. Вырашылі тэлефанаваць у міліцыю.

За гэты час Сцёпка крышку ачуняў. Прачнуўся ад моцнага болю ў шыі — нязручна ж у шафе спаць. Хістаючыся, вынырнуў адтуль, каб перабрацца на




ложак, але ў цемры выцяўся аб крэсла, застагнаў.

— Любка, а хто там у цябе стогне? — пацікавілася сяброўка. — Можа, «Фантамас»?

З-за прыадчыненых дзвярэй выглянуў збянтэжаны Сцёпка.

— Вой, міленькі! А дзе ж ты быў? І што за запіска такая была на стале? — кінулася распытваць жонка.

— Я спаў, — коратка патлумачыў Сцёпка. — А якая запіска?

— З подпісам «Фантамас».

— Нічога не памятаю! — уздыхнуў мужчына.

— А дзе зарплата, таксама не памятаеш? — строга спытала Любка, перабіраючы ў кішэні каштоўныя паперкі.

Сцёпка дастаў партманет. Там засталася толькі дробязь.

— Дурань я! Згубіў зарплату... Даруй мне, родненькая! Больш ні чаркі ў рот не вазьму!

— Даўно бы так, — павучальна зазначыла Любка і падміргнула сяброўцы. — Сябе не шкада, дык хоць зарплату пашкадаваў бы...

**Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*




## З хворай галавы…

*Байка*

Ліса пусціла плётку ля крыніцы,
Што Заяц непрыстойнасці тварыў:
Знайшоў замест Зайчыхі
маладзіцу,
На лапах ля ракі насіў,
Банкеты ладзіў, і нярэдка,
Сама таму нібыта сведка.
На справе ўсё было інакш: Сабакі
Ганяліся за Шэрым па кустах.
Яны даліся так у знакі,
Што той, нябога, на нагах
Ледзь-ледзь трымаўся,
Ды цудам ацалеў, жывы застаўся.
Цяпер, чытач, наконт Лісы:
Вось ад каго гудуць лясы!
Яе суседкі
Не могуць бачыць і трываць:
Сястрыца дом пільнуе рэдка –
Занадта любіць пагуляць.
А на Рыжухіных банкетах
Мядзведзь не раз
Заводзіў брыдкія куплеты.

Чамусь бывае так, а не іначай:
Нявіннага той хоча ачарніць,
Хто сам грашыць,
Пляткарыць і лайдачыць.

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*



## Позняе пакаянне

Патрапіў у яму глыбокую Леў,
Гаруе адзін, недарэка.
А з дрэва наверсе (як тут
стрымаць гнеў?)
Маленькая Малпа са здзекам:

– Цяпер паляўнічы, нарэшце,
заб'е
Цара – не паможа і сіла!
На пацеркі зубы адправяць усе,
А тлушч дааcтатку – на мыла.
Дыван зробяць мяккі са скуры
тваёй
І выкінуць воранам цела...
Тут сук адламаўся, і Малпа –
вой-ёй! –
Уніз, да Ільва паляцела.

Ад жаху ў вачах замільгалі кругі.
Стаіць перад ім на каленях,
Бажыцца: «Павер мне, сусед
дарагі,
Прыйшла папрасіць прабачэння!»

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

## Госця

Аднойчы, акурат пад вечар,
У госці Муза завітала.
Была я рада той сустрэчы,
Каторы дзень яе чакала.

З усмешкай шчыраю вітаю
Ды прапаную ёй цукеркі,
А Муза скоса паглядае
І просіць чарачку гарэлкі.

Кульнуўшы, госця закусіла
Як мае быць: яешняй з бульбай.
Пасля галоўку нахіліла
І прашаптала мне: «Галуба!
Сядзі пакуль што ты на градках,
Шануй свякроў, гадуй унукаў.
Ды навядзі ў мазгах парадак,
Каб вецер пад страхой
не грукаў».

Затым прысела ў рэверансе,
Прыгожа ручкай памахала...
Прызнаюся: такога хамства
Ад сваёй Музы не чакала!

**Ірына СЯСІЦКАЯ,**
*г. Докшыцы.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

## Чужы — не свой



Слабасць маю я, сябры:
Магу танчыць да зары.
Ды з партнёрамі — праблема:
Мы ж вяскоўцы, не багема.
Выпаў шанц нарэшце мне
Ў санаторыі, але
З тым, каго я ўпадабала,
Жонка ў пары танцавала.
Па такія выраблялі —
Ўсе раты паадкрывалі.
Пачынаю план складаць:
«Трэба з ёй пасябраваць!
Мо, тады не прыраўнуе,
Паскакаць не пашкадуе».
Пазнаёміліся з Нінай
(А прыемная жанчына!),
Калі ў лазні грэлі косці.
Запрасіла яе ў госці,
Торт купіла і каньяк —
Маю справу як-ніяк!
Накарміла, падпаіла
І, дальбог, угаварыла.
«Так і быць, — сказала Ніна, —
Пазычаю на гадзіну
Свайго мужа, ды глядзі:
Ты вады з ім не муці.
Хочаш танцаваць — танцуй,
Але толькі не фліртуй».
Вечарам мужчыну смела
Запрасіла я на белы.
Вальса тур са мной прайшоў,
«Дзякую» — і будзь здароў!
Знік партнёр, пасля з'явіўся —
Зноўку з жонкай закружыўся...
Выйшла я у калідор —
Вось табе і дагавор!
Доўга думала ў цішы:
«Муж чужы — ёсць муж чужы...»

**Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Старое на новы лад

Алей з вадой не змяшаеш, таму ў магазіне яго і прадаюць неразбаўленым.

І каза ваўка можа з'есці, калі яна начальнік.

Сарока з тыну, а дзесяць на тын... Рэвізоры на прадпрыемстве харчавання.

Прыкмета: калі загадчык склада завёў ката, чакай недахоп мясных вырабаў.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Беларуская зіма

На двары трашчыць мароз,
Але ў хаце — цёпла.
Сустракаем мы зіму
Ў кажухах пацёртых.
Не баіцца беларус
Снегу ды завеі.
Нездарма спрадвеку продкі
Ўзімку песні пелі.
Добры ёсць запас: ячмень,
Бульба, мёд, чарніцы.
Сала, моцная гарэлка —
Што ж не весяліцца!
Сустракаем Новы год,
Дружна калядуем.
Можна ўзімку адпачыць,
Вясной — папрацуем!

**Васіль СЕМЯНЮК,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Баравікі.*

## РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе




### «Чытанка для ласуноў»

Хто з вас, хлопчыкі і дзяўчынкі, лічыць сябе ласуном? Хто ніколі не забываецца частаваць любімымі прысмакамі сваіх бацькоў і сяброў? Хто ўмее быць удзячным і шчодрым? Гэтая кніга — для вас. Разам з героямі вершаў, апавяданняў і казак вы яшчэ раз «пакаштуеце» самых смачных ласункаў.

Уладкоўвайцеся зручней — вас чакае «смачная» кніга пра прысмакі на любы густ.

*P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga.by, а таксама ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.*

*Даведкі па тэлефонах 284-44-04, 288-12-94.*

*Інфармацыю пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна атрымаць па тэлефонах:*

*296-70-72, 292-70-72.*

*Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» — www.zviazda.by*

### Мікола ЧАРНЯЎСКІ

#### Капялюш

Прынёс дзядуля капялюш,
А капялюш — паўнюткі груш.
— Гэй, унукі, налятай,
Налятай, за хвост хватай!
Налятай усёй гурмой,
Каб не ўцёк
Гасцінец мой!



Грушы ўбачылі
Унукі —
Не чакаў ніхто прынукі.
Грушы —
Быццам на малюнку!
Рады дзеці
Пачастунку:
Ля ка-пе-лю-ша
Гуртком...
Ён — пусты ўжо,
Рот — бітком!
Дзед з падворка
Ў дом вярнуўся,
Люлькай пыхнуў,
Усміхнуўся.





Глянуў дзед
У капялюш —
Ён у хвосціках ад груш.
Як на дне глыбокай міскі,
У ка-пе-лю-шы — агрызкі...
Стала ўраз дзядулю прыкра,
Знік настрой
І ўсмешка знікла...

Мільгае ў садзе каля груш
Знаёмы дзедаў капялюш,
Але ў здзіўленні ўнукі ўсе:
— Чаму дзед груш болей не
нясе?

### Віктар ГАРДЗЕЙ

#### Вітамін

Дзед у садзе сліў натрос, —
Поўны кош дамоў прынёс.

— На здароўе еш, Ігнат, —
Вітамінаў у іх шмат.



Сліву ўнук пасмакаваў,
Дзеду костачку падаў:
— Вось і праўда, вітамін,
Ды шкада — ўсяго адзін.



### Алена МАСЛА

#### Лыжка ў гасцях у Міскі

Прыйшла Лыжка ў госці да Міскі.

— Дзень добры, суседачка! Учора, як гаспадар еў суп, на вашым донцы, на ніжняй спадніцы, я пабачыла адмысловыя карункі. Але гаспадыня так хутка пасля абеду прыбрала посуд, што я не запомніла ўзор. Ці не дасце вы мне паглядзець на іх сёння?

— Карункі і праўда адмысловыя, не дзіва, што вы заўважылі. Я б і рада з вамі, суседачка, фасонам падзяліцца, але ж гляньце — я поўная кашай, да карункаў не дабрацца!

— А давайце гаспадара паклічам, ён любіць кашу, хутка яе з'есць!

— Ён зранку на рабоце. Спяшаўся так, што нават не снедаў.

— Ну, тады гаспадыня няхай паесць. Ёй не зашкодзіць — вунь якая тоненькая, паглядзіце!

— Што вы, што вы! Сама сябе яна лічыць таўставатай і ўвесь час сядзіць на дыеце. Кашу яна дакладна есці не будзе!

— Што ж рабіць, суседачка? Мяне паклікалі на вяселле Апалонік з Патэльняю, да нядзелі хацела новы ўбор аздобіць такімі ж карункамі, як у вас. А калі кашу не прыбраць, усе мае планы парушацца, я і на вяселле тады не хачу ісці!

Змоўклі Лыжка з Міскай, думаюць, што рабіць. Аж чуюць — па калідоры ножкі тупаюць: Альжбэтка прачнулася, у лазеньку пабегла.

— Хуценька мыйся, коскі запляцём — і снедаць, — кажа ёй мама.

Села Альжбэтка за стол. Лыжка кашы — за маму, лыжка — за тату, лыжка — за бабу з дзедам, лыжка — за брацікa Уладзіка, лыжка — за лялькy Карусю, лыжка — за ляльку Марусю.

Вось і краёчак ніжняй спаднічкі на донцы міскі паказаўся... вось і ўся спаднічка з карункамі!

Лыжка пільна ўглядаецца, пакуль падбірае рэшткі кашы з донца. Каб ні кропелькі не засталося, бо ўсё разгледзець хочацца!

Ах, малайчынка, Альжбэтка! Усю кашу з'ела! Давядзе Лыжка да ладу новы строй, пойдзе на вяселле да Апалоніка з Патэльняй, будзе самай прыгожай шаферкай!

Альжбэтка паела — і табе, дружа, смачна есці! Усё чыста з'ядай! Можа, на дне тваёй талеркі таксама хаваецца казка.

## У нас у гасцях

# бярозка

### Анекдоты

З размовы паміж суседзямі.

— Ведаеш, мой Рэкс такім лянівым зрабіўся, — скардзіцца гаспадар сабакі суседу.

— З чаго ты ўзяў? — пытае той.

— Раней, каб пагуляць, ён мне павадок прыносіў, а цяпер — ключы ад машыны.

* * *

Стасечка енчыць:

— Мама, купі сабачку!

— Не! — адмаўляе тая.

— Ну, калі ласка! Вельмі цябе прашу! — не супакойваецца дзяўчынка.

— Я ж сказала — не! Прадай яго яшчэ каму-небудзь...

* * *

Малы Андрэй пытаецца ў Максіма:

— Скажы, чым адрозніваецца Месяц ад Сонца?

— Месяц — спадарожнік Зямлі, а Сонца — бліжэйшая да нас зорка, — адказвае кемлівы хлопчык.

— Ну ты і дурны, элементарных рэчаў не ведаеш! — адказвае сябра. — Проста Месяц свеціць уначы, а Сонца — удзень!

### Пытанні для знаходлівых

1. Падышлі да ракі качаня і кураня. Хто з іх хутчэй пераплыве на той бераг?

2. Два бацькі падарылі сваім сынам грошы. Адзін сын атрымаў 10 рублёў, другі — 5 рублёў. Але калі склаcці грошы, якія атрымалі абодва, у суме будзе толькі 10 рублёў. Як гэта можна растлумачыць?

3. Мінск знаходзіцца амаль што ў цэнтры Беларусі. А што знаходзіцца ў самай сярэдзіне Мінска?




**Лёля БАГДАНОВІЧ**

### З гары на санках!

Мяце завея-завіруха
І клямку тузае за вуха.
Ля студні скача і ля плота,
Нібы ёй бавіцца ахвота.

Пазамятала ўсё навокал,
Усюды бель — як глянуць вокам!
У хлеў схавалася сінічка...
Ды я надзену рукавічкі,

Валёнкі, кажушок, вушанку,
Сабаку пасаджу на санкі,
Паедзем разам з ім на горку.
Там — Міша, Волька і Арцёмка,

Андрэй, Ірынка, і Тамара,
І дзед Мікола ў шараварах.
З гары на санках — вецер свішча!
Ды мамка ўжо вячэраць кліча...

*г. Барысаў.*

**Адказы на пытанні:**

**1.** Качаня. Кураня не можа плаваць;
**2.** Сын першага бацькі з'яўляецца бацькам для другога сына. Ён даў сыну палову ад той сумы, якую атрымаў ад свайго бацькі і яго дзядулі;
**3.** Літара «н».




## Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім



Шэраг вожыкаўскіх мастакоў паступова папаўняецца новымі імёнамі, і сёння мы рады прадставіць вам Андрэя Жалязку – нашага новага аўтара, які з ахвотай узяўся за асваенне майстэрства карыкатуры. Выкладчык выяўленчага мастацтва, фінансіст у прадпрымальніцкай дзейнасці, вэб-дызайнер – працавіты хлопец з палескай вёсачкі Антонаў атрымаў не адную адукацыю. Сёння ён прымае ўдзел у стварэнні камп'ютарных гульняў на Facebook.com, супрацоўнічае з выдавецтвамі. У вольны час займаецца раслінамі і ўдасканальвае сябе ў розных рамёствах. Як кажуць, таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім! Жадаем Андрэю далейшых поспехаў на мастацкай ніве і шчыра віншуем з дэбютам у «Вожыку».












Андрэй ЖАЛЯЗКА і Андрэй СІДАРЭЙКА.

## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

# «Налётчык»

Прымаркоцілася Клава,
Гасне дзеўка не ў пару:
Хлопцы злева, хлопцы справа –
Толькі замуж не бяруць.

Неадчэпныя, смяюцца
Пад акном на ўсе лады.
Да якога прыгарнуцца
Не на вечар, на гады?

Пецька Гэльчын – недарэка,
Віцька Янішын – п'янтос.
Дзе знайсці ёй чалавека,
Каб звязаць навек з ім лёс?

Несупынна п'ецца кава,
Цыгарэта вусны трэ.
Прымаркоцілася Клава,
Дзеўкай, мабыць, і памрэ.

І лягла яе дарожка
Ў бліках зорнага святла
Да кульгавае варожкі,
Што жыве ў канцы сяла.

Як махне бубновым тузам
Ды прыстукне па стале:
– Хутка будзеш, дзеўка, з пузам,
Лёс налётчыка пашле!

Напалохалася Клава,
Як асіны ліст, дрыжыць.
Гэтак стала нецікава
Пасля варажбы той жыць.

Ды бываюць цуды ў свеце.
Вёскай чуткі паплылі:
Выйграў недарэка Пеця
Ў латарэю «Жыгулі».

І ў чарговую суботу,
Чым уразіў аж да слёз,
Клаву ён узяў з налёту –
І, шчаслівы, ў загс павёз.

*г. Мінск*




## Крабы

Люськін муж, збіраючыся ў камандзіроўку ў Мінск, аб нечым доўга размаўляў з сябрам па тэлефоне. Жонка ў гэты час разам з Ленкай круцілася перад вялізным люстрам і прымярала да сваіх валасоў сяброўкіну заколку-краб. Прычоску яна трымала добра, ды і Люсьцы ну вельмі пасавала.

– А дзе ты яе купіла? – нарэшце спытала яна ў Ленкі.

– У Мінску, – адказала тая. – Прабач, что не магу падарыць, але пастараюся да твайго дня нараджэння прыдбаць такую прыгажосць.

– Вой, не трэба! – спахапілася Люська. – Муж заўтра едзе у Мінск, ён і купіць, не турбуйся.

Калі муж паклаў трубку, Люська падбегла да яго, цмокнула ў шчаку і так ветліва-лагодненька папрасіла:

– Сярожа, а прывязі ты і мне «краба».

...З Мінска Сяргей прывёз два кіло крыветак і сказаў, што ў Мінск, на той час, пакуль ён там быў, крабаў не завезлі...

**Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі р-н,*
*г.п. Падсвілле.*

## Звычка

Крама. Мужчына выклаў прадукты з кошыка на стужку транспарцёра, касірша пачала іх прабіваць. Аднак у выніку на стужцы застаўся мокры след ад пакета з малаком. Пакупнік не разгубіўся і хуценька схапіў анучу, якая ляжала каля касавага апарата, каб загладзіць віну.

– Мужчына, што вы робіце? – зрабіўшы вялізныя вочы, запыталася касірша. – У нас самаабслугоўванне толькі на зале, тут я сама ўсё зраблю.

– Прабачце, – зачырванеўся пакупнік, пужліва азіраючыся назад. – Гэта ў мяне такая звычка выпрацавалася за пяць гадоў сямейнага жыцця...

**Наталля ШАСТАКОВА,**
*г. Гомель.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Анекдоты

Размова па тэлефоне:
– Алё, добры дзень! А ў вас долары ёсць у продажы?
– Так.
– Які курс?
– Шэсць рублёў.
– Колькі?! Выбачайце, а што гэта за банк?
– Гэта не банк, а друкарня!




* * *

У мясную краму, за хвіліну да закрыцця, залятае жанчына.

– Дзякуй богу, паспела! У вас куры ёсць? – з надзеяй звяртаецца яна да прадаўца.

Мяснік дастае з лядоўні адзіную курыцу і кладзе на вагі. Прыбор паказвае кілаграм.

– А большай няма? – пытаецца жанчына.

Мяснік моўчкі прыбірае курыцу, потым дастае яе ж, паварочвае, кладзе на вагі і прыціскае пальцам.

Стрэлачка падскоквае да адзнакі ў паўтара кіло.

– Выдатна! – радасна ўздыхае пакупніца. – Тады мне, калі ласка, абедзве.



* * *

Калі табе не падабаецца праца – вазьмі крэдыт, і ты яе палюбіш.

Афармі яшчэ адзін – і ты пачнеш паважаць свайго шэфа.

Ну, а пасля – жаніся! У такім выпадку ты палюбіш нават свой офіс.




* * *

Аднойчы ў рэстаране.

– Афіцыянт! Чаму ў маім піве шчэпка плавае? – робіць заўвагу кліент.

– Таму што яна лёгкая, – спакойна тлумачыць той. – Вось учора аднаму шруба трапілася, дык яна на дне ляжала...





* * *

У гарадскіх аўтобусах любой краіны каля вадзіцеля заўсёды вісіць аб'ява. Але забароны паўсюль розныя.

У Англіі – «З шафёрам лепш не размаўляць».

У Германіі – «Размаўляць з вадзіцелем строга забараняецца».

У Ізраілі – «Няма ніякай цікавасці размаўляць з шафёрам».

У Італіі – «Адказваць вадзіцелю забаронена».




«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 1 (1540), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Веранiка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.01.2017. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,36. Тыраж 966 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Тамара РАДАВАНАВІЧ.

**Аляксандр Вялікі.** Не, мне цёпла і так.

**Андрэй Ягоравіч** (*падказвае Наталлі*). Чытачам, магчыма, будзе цікава ведаць, за якія сродкі жыве асілак?

**Наталля** (*лагаджаецца*). Дзякуй, Андрэй Ягоравіч. Гэта добрае пытанне.

**Марыя Уладзіміраўна** (*заступаецца за сына*). Навошта вы зноў? Бацька някепска зарабляе, яшчэ і мая пенсія. Ужо неяк пракормім адзінага сыночка. А калі што, то і бабуля дапамагае.

**Аляксандр Вялікі.** Мне ўсяго хапае. Мой конь, BMW X5, стаіць у гаражы. Вось так трэба ўмець жыць!

**Андрэй Ягоравіч** (*убок, з'едліва*). І сапраўды!

**Марыя Уладзіміраўна** (*усхвалявана*). Ну як, аповед пра нашага асілка атрымліваецца?

**Наталля.** Так. Толькі зараз фота зробім для матэрыялу, а пасля падпішам: «Герояў» нашага часу трэба ведаць у твар!»

*Дастае фотаапарат і робіць некалькі здымкаў Аляксандра.*

**Марыя Уладзіміраўна** *(не разумеючы*). А гэта добра ці кепска?

**Наталля.** Кепска. І вельмі.

**Андрэй Ягоравіч.** Марыя Уладзіраўна, мы ўжо даўно казалі, што ваш сын — абібок. Цяпер гэта вам пацвердзяць жыхары ўсяго раёна.

**Марыя Уладзіміраўна.** Ах, Божухна! Які сорам! Сашка, а можа ты ўсё ж пойдзеш працаваць?

**Аляксандр Вялікі** (*незадаволена*). Ну, мама, што ты такое кажаш!

**Андрэй Ягоравіч.** Праўду, толькі шчырую праўду.

**Наталля** (*сабе пад нос*). Эх, а такіх тунеядцаў у Беларусі налічваецца амаль 73 тысячы чалавек! І кожны з іх павінен заплаціць штраф у памеры дваццаці базавых велічынь. (*Уголас.*) Хадземце, Андрэй Ягоравіч, а то не дай бог такая лянота яшчэ і заразная.

*Выходзяць з пакоя, пакідаючы маўклівых сына і маці. Заслона.*

*г. Рэчыца.*



# Маскі

Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Алег ГУЦОЛ.



Пётр КОЗІЧ.






# Дзе знайсці спакой?

*Міні-фельетон*

– Сцяпанаві-і-і-іч! – у двары каля звычайнай пяціпавярхоўкі прагучаў працяжны хрыплы мужчынскі крык.

Неўзабаве акно на другім паверсе расчынілася і адтуль пачуліся словы:

– Чаго равеш, Мікола? У дамафон бы лепей пазваніў, чым на вуліцы гарлапаніць. Што хочаш?

– Хутчэй спускайся! Дрэнныя навіны! Бяда! Не ведаю, як быць! – з хваляваннем і нават жахам у голасе адказаў той.

Сцяпанавіч уздыхнуў, апрануўся і пайшоў выратоўваць свайго прыяцеля, з якім быў знаёмы больш за 40 гадоў. Ужо праз пару хвілін мужчына быў на вуліцы.

– Што здарылася, Коля? Чым дапамагчы?

– Ты яшчэ не чуў навіну? – пачаў хадзіць туды-сюды мужчына. – Забаранілі... Як цяпер жыць?

– Так, стой. Раскажы па парадку! – нічога не разумеў Сцяпанавіч.

– Настойку глогу забаранілі! Дакладней, больш за адзін флакон на рукі не даюць. А ў мяне ж сэрца баліць, ціск скача. Як я без гэтых лекаў засынаць буду? Раней выпіў дзве, тры, а калі дзень не заладзіўся, то і ўсе чатыры бутэлечкі – і спіш, як немаўлятка. А зараз як?

Сцяпанавіч задумліва прапанаваў:

– Ну, можа, тады купляй валяр'янку?

– З ёй тая ж сітуацыя! І з настойкай сардэчніку, календулы і нават мурашынага спірту! Гора ды несправядлівасць! Ты б ведаў, колькі людзей такіх, як я, хто не можа нармальна заснуць, сустракаю амаль кожны дзень каля аптэкі. Што рабіць? Мы ж усе за натуральныя сродкі, за народную медыцыну, а не за хімію ўсялякую... – амаль плакаў Мікола.




Ягоны сябар, ледзь стрымліваючы смех, прамовіў:

– Чаго ты так хвалюешся? Ёсць жа і іншыя сродкі заспакаення. Напрыклад, рамонкавая гарбата. А валяр'янку і ў таблетках можна купляць.

– Спрабаваў, эфект не той.

– Тады, можа, справа зусім не ў народнай медыцыне? – са смехам запытаў Сцяпанавіч.

– Ды за каго ты мяне прымаеш! Я табе не які-небудзь алкаголік! У мяне стрэс і нервы кожны дзень! Не разумееш ты мяне, дружа. Пайду, знайду спачуванне ў каго-небудзь больш дасведчанага ў гэтым пытанні. Бывай! – і амаль пабег да наступнага дома.

Яго сябар пацiснуў плячыма і ціхенька сказаў:

– Ну-ну, пашукай, можа, нарэшце, зразумееш, што табе на самай справе падаравала настойка глогу і які спакой ты знайшоў...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Пётр КОЗІЧ.




Алег ПАПОЎ.
















*Ура-ўра! Спецыяльна для тых, хто не любіць жартаваць адзін, а заўсёды падключае да гэтай справы сваіх родных, «Вожык» распачынае новую рубрыку. Хочаце падзяліцца вясёлымі фотаздымкамі з жыцця сваёй сям'і? Дасылайце іх нам у рэдакцыю на электронную ці паштовую скрыню. Аўтараў самых лепшых кадраў чакае прыз – публікацыя ў «Вожыку»! Чакаем вашых вясёлых фота!*

Аляксандр ШМІДТ.



*Каб здаровенькімі быць,*
*Трэба пехатой хадзіць,*
*А не грэць сабою ложак.*
*І — чытаць часопіс «Вожык»!*







**Ганна ШЫЛЬКО,**
*Пастаўскі раён,*
*г. п. Варапаева.*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,80 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,00 рублёў,
індэкс 748442, цана 10,80 рублёў,
індэкс 01381, цана 8,60 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

